


# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№5(121)

1 сакавіка 2014 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь


# МАГІЛЁЎСКІ АБЛВЫКАНКАМ АПРАЎДВАЕ АДМОВУ ЖУРНАЛІСТУ Ў ДОСТУПЕ ДА ІНФАРМАЦЫІ

***Выдавец грамадска-палітычнага бюлетэня “Клімавіцкая Інфа-Панарама”, сябар ГА “БАЖ” (Беларуская асацыяцыя журналістаў) Сяргей Аржанцаў скардзіўся на дзеянні старшыні адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама Наталлі Асмалоўскай, якая не дазволіла Сяргею Аржанцаву прысутнічаць на пасяджэнні адміністратыўнай камісіі***

Намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама А. Сталяроў піша, што справа аб адміністратыўным правапарушэнні разглядаецца адкрыта, але звесткі, якія ўтрымліваюцца ў справе, могуць быць агалошаныя толькі з дазволу суддзі, службовай асобы органа, які вядзе працэс. А ў выпадку, калі яны тычацца асабістага жыцця пацярпелага, — з дазволу апошняга.

Такім чынам, забарона райвыканкамаўскай чыноўніцы, на думку спадара Сталярова, мела законныя падставы.

“Паводле логікі ўпраўлення юстыцыі аблвыканкама, можна не дазволіць прысутнічаць і на адкрытым разглядзе справы. Такое магло паўстаць толькі ў нашай прававой сістэме, якая даўно перастала зважаць на патрабаванні заканадаўства”, — кажа пра адказ Сяргей Аржанцаў.

Магілёўскі праваабаронца Барыс Бухель лічыць, што А. Сталяроў даў незалежнаму журналісту неабгрунтаваны адказ.

“Спадар Сталяроў у сваім лісце робіць падмену паняццяў, калі спасылаецца на артыкул 10.8 ПВКаАП, — мяркуе Барыс Бухель. — У артыкуле ідзе размова пра звесткі, якія ўтрымліваюцца ў матэрыялах справы аб адміністратыўным правапарушэнні. Гэтыя звесткі сапраўды могуць быць агалошаныя толькі з дазволу суддзі альбо асобы, якая вядзе працэс.

Што ж тычыцца разгляду спраў аб адміністратыўным правапарушэнні — у ПВКаАП ясна сказана, што яны разглядаюцца адкрыта. А частка 2 артыкула 2.14 ПВКаАП канкрэтна кажа, што закрыты разгляд справы аб адміністратыўным правапарушэнні можа адбывацца “ў мэтах прадухілення разгалошвання інтымных бакоў жыцця фізічных асобаў, якія ўдзельнічаюць у адміністратыўным працэсе, альбо звестак, які складаюць дзяржаўную альбо іншую ахоўваную законам таямніцу”. Так што на месцы Сяргея Аржанцава я б, безумоўна, не пагаджаўся з своеасаблівай трактоўкай ПВКаАП чыноўнікам галоўнага ўпраўлення юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама”.

Нагадаем, што Сяргею Аржанцаву 8 студзеня адмовілі ў праве прысутнічаць на пасяджэнні адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама. Прысутнасць журналіста не спадабалася старшыні адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама Наталлі Асмалоўскай. У гэты дзень на пасяджэнні камісіі павінны былі разглядацца некалькі спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія зацікавілі выдаўца “Клімавіцкай Інфа-Панарамы”.




****Служба маніторынгу ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў"***

## ДАВЕДКА “КЛІМАВІЦКАЙ ІНФА-ПАНАРАМЫ”:

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» — добраахвотнае, недзяржаўнае, непартыйнае аб'яднанне грамадзян, якія займаюцца прафесійнай журналісцкай дзейнасцю альбо садзейнічаюць яе развіццю. БАЖ дзейнічае з 1995 года, з 1997 г. з’яўляецца асацыяваным сябрам Міжнароднай Федэрацыі Журналістаў (IFJ). Сёння ў БАЖ налічваецца больш за 1000 сябраў, якія працуюць у розных перыядычных выданнях, на радыё і тэлебачанні, у выдавецкіх кампаніях. Афіцыйны сайт - baj.by



# «ХОПІЦЬ КАРМІЦЬ…»:

## ЯКІЯ БЕЛАРУСКІЯ РЭГІЁНЫ АТРЫМЛІВАЮЦЬ НАЙБОЛЬШ ДАТАЦЫЙ?

**Ягор МАРЦІНОВІЧ, Наша ніва**

***У любой краіне свету рэгіёны развіваюцца нераўнамерна. Дзесьці пашчасціла з карыснымі выкапнямі, а недзе нічога, апроч гор, і не ўбачыш. Жыхары больш багатых рэгіёнаў наракаюць на бяднейшых, маўляў, даводзіцца ўтрымліваць іх за свой кошт. Але выплата датацый — практыка, прынятая ў большасці краін свету.***



Напрыклад, у суседняй Украіне летась на самаакупнасці былі толькі шэсць абласцей з 24. Астатнія, у тым ліку, дарэчы, і Данецкая, існуюць за кошт дапамогі больш багатых рэгіёнаў.

У Расіі праблема яшчэ больш абвостраная. Некалькі гадоў таму выдаткі з бюджэту на аднаго жыхара Чачні перавышалі выдаткі на астатніх грамадзян у дзевяць разоў!

Ці існуе падобная сітуацыя ў Беларусі? Для аналізу мы ўзялі леташні рэспубліканскі бюджэт. Ён пераглядаўся некалькі разоў, каб усё ж звесці прыбыткі з выдаткамі. У дакуменце прапісаны памер датацый, якія выдзяляюцца кожнай з абласцей.

Агулам гэта 3,5 мільярда долараў — больш за чвэрць усяго бюджэту краіны. Як іх дзеляць? Падрабязны адказ на пытанне трэба шукаць у абласных бюджэтах. Можна канстатаваць, што без прамых уліванняў абыходзяцца толькі тры раёны — Мінскі, Гродзенскі і Салігорскі.

Аднак існуюць і іншыя віды рэспубліканскай дапамогі, так званыя субвенцыі. Гэта мэтавыя субсідыі. Напрыклад, 350 мільёнаў долараў выдзяляюцца на пераадольванне наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Дзве траціны ад гэтай сумы забірае сабе Гомельшчына.

Асобным артыкулам ідзе размеркаванне сродкаў на кампенсацыю падаражання калійных угнаенняў. Апроч таго, грошы выдзяляюцца на будаўніцтва жылля па чэках, газіфікацыю, дапамогу сельскай гаспадарцы…

У бюджэтах большасці абласцей не ўдакладняецца, як размяркоўваюцца гэтыя дробныя выдаткі па канкрэтных раёнах. Таму мы ўлічылі прамыя датацыі, чарнобыльскую дапамогу, калійную «кампенсацыю» і надзвычай любімыя чыноўнікамі «іншыя плацяжы».

Але выкарыстоўваць абсалютныя лічбы некарэктна — паўпустую Расоншчыну складана параўнаць са шчыльна заселеным Мінскім раёнам. Таму мы параўноўваем агульны аб'ём датацый у пераліку на аднаго жыхара.

Найбольшую дапамогу атрымліваюць малыя раёны Магілёўшчыны і Гомельшчыны. У Дрыбінскім раёне — рэкардсмене — датацыі з субвенцыямі дасягаюць 1209 долараў на чалавека за год. У Брагінскім і Краснапольскім раёнах дапамога фактычна такая самая. З рэгіёнаў Заходняй Беларусі на бюджэтнай «ігле» летась апынуліся толькі Свіслацкі (103-е месца) і Ляхавіцкі (113-е) раёны.

Найменшую агульную дапамогу атрымліваюць раёны Міншчыны. З топ-7 пазіцый у рэйтынгу выключэннем выглядае толькі Гродзенскі раён (разам з Гародняй). Астатнія месцы размеркаваліся паміж рэгіёнамі Мінскай вобласці. Маладзечанскі, Смалявіцкі (разам з Жодзіна), Барысаўскі, Дзяржынскі, Салігорскі і Мінскі раёны бяруць з бюджэту найменш.

А што ж сталіца? Мінскі бюджэт прамых датацый зверху не атрымлівае, астатняя дапамога невялікая. Нешта за Чарнобыль, нешта на будаўніцтва транспартнай інфраструктуры — агулам 35 мільёнаў долараў. Але пры гэтым сталіца яшчэ і сама ахвяруе ў рэспубліканскі бюджэт. Летась, напрыклад, у Мінска «папрасілі» пакласці ў агульную касу каля 605 мільёнаў долараў.

| № | Раён | Датацыі + субвенцыі (у доларах) | Насельніцтва раёна | Датацыі на чалавека (у доларах) |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Мінскі | 5.164.252 | 178.736 | 29 |
| 2 | Салігорскі | 5.212.230 | 134.815 | 39 |
| 3 | Дзяржынскі | 3.506.462 | 62.398 | 56 |
| 4 | Гродзенскі | 24.225.761 | 405.741 | 60 |
| 5 | Барысаўскі | 21.180.768 | 183.870 | 115 |
| 6 | Смалявіцкі | 13.420.776 | 106.597 | 126 |
| 7 | Маладзечанскі | 19.672.977 | 136.342 | 144 |
| 68 | Крычаўскі | 20.430.639 | 33.199 | 615 |
| 78 | Касцюковіцкі | 17.088.134 | 24.478 | 698 |
| 82 | Клімавіцкі | 18.721.604 | 26.059 | 718 |
| 106 | Хоцімскі | 11.103.237 | 11.643 | 954 |
| 110 | Чэрыкаўскі | 14.108.144 | 13.984 | 1.009 |
| 116 | Краснапольскі | 12.210.920 | 10.138 | 1.204 |
| 117 | Брагінскі | 15.444.969 | 12.796 | 1.207 |
| 118 | Дрыбінскі | 13.040.765 | 10.784 | 1.209 |





# ВЫБАРЫ: АЛЬТЭРНАТЫВА БУДЗЕ ТОЛЬКІ Ў 10% АКРУГАЎ

**Уладзімер ГЛОД, Радыё Свабода**

***Амаль 90% акругаў у Беларусі падчас мясцовых выбараў застануцца безальтэрнатыўнымі. Гэта стала вядома пасля заканчэння працэсу рэгістрацыі кандыдатаў. На 18 тысяч мандатаў застаецца 22 тысячы прэтэндэнтаў.***

Старшыня Беларускага Хельсінскага камітэту Алег Гулак паведаміў журналістам пра свае назіранні і высновы, зробленыя на падставе вынікаў рэгістрацыі кандыдатаў:

«У нас, калі ўзяць у сярэднім па краіне, толькі 1,2 кандыдата на месца. Выбары па пераважнай бальшыні акругаў будуць безальтэрнатыўнымі. Толькі ў крыху больш як 10% акругаў будзе некалькі кандыдатаў.

Але пры гэтым няма ніводнай акругі, дзе б не было прэтэндэнта наагул. Атрымліваецца, што нейкім стыхійным шляхам грамадзяне „закрылі" ўсе акругі. Адсюль і вельмі вялікая падазронасць, што насамрэч мы бачым вельмі кіраваны працэс. Бо вельмі мала верагоднасці, што кандыдаты маглі б так размеркавацца чыста стыхійным шляхам».

Дзіўнымі выглядаюць і вынікі рэгістрацыі тых, хто вылучаўся праз збор подпісаў выбарцаў, — канстатаваў Алег Гулак:

«Калі агульны працэнт рэгістрацыі праз збор подпісаў склаў 98%, то для сябраў незарэгістраванай партыі БХД — толькі 32%, а для прадстаўнікоў руху „За свабоду" — 43%. І гэта пры тым, што яны маюць і досвед удзелу ў выбарах наагул, і афармлення дакументаў — у прыватнасці. І, вядома, тут просяцца пэўныя высновы, чаму так адбываецца».

Аднак канкрэтных прыкладаў парушэння працэдуры рэгістрацыі ў праваабаронцаў няма. І не таму, што парушэнняў не было. А таму, што ніводнага назіральніка ад грамадзянскай кампаніі




«Праваабаронцы за свабодныя выбары» не дапусцілі назіраць за праверкай дакументаў патэнцыйных кандыдатаў, — заявіў намеснік старшыні праваабарончага цэнтру «Вясна» Валянцін Стэфановіч:

«Стопрацэнтна нашым назіральнікам было адмоўлена прысутнічаць падчас праверкі подпісаў. А гэтая працэдура вельмі дакладна прапісаная ў Выбарчым кодэксе, як яна павінна адбывацца. Але ацаніць, наколькі камісіі кіраваліся гэтымі працэдурамі, наколькі яны іх выконвалі, наколькі яны не адыходзілі суб'ектыўна да праверкі тых ці іншых подпісаў, мы не можам. Выходзіць, што вялікі этап выбарчай кампаніі застаўся закрытым і непублічным татальна, на 100%».

# У БЯЛЫНІЧАХ ПАЛОХАЮЦЬ АДКАЗНАСЦЮ ЗА МАСАВЫЯ БЕСПАРАДКІ ПАДЧАС ВЫБАРАЎ

***На інтэрнэт-старонцы Бялыніцкага райвыканкама ў рубрыцы "Выбары-2014" з'явіўся цікавы дакумент за подпісам начальніка Бялыніцкага РАУС палкоўніка Юрыя Сіманава. Гэта той самы Сіманаў, што перад назначэннем у Бялынічы некалькі гадоў узначальваў Клімавіцкі РАУС.***

У дакуменце пад назвай "Інфармацыя аб адказнасці за парушэнне выбарчага заканадаўства" прыводзіцца шэраг артыкулаў Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях і Крымінальнага кодэкса, і меры пакарання, якія прадугледжаны гэтымі артыкуламі.

Паказальна, што ў шэрагу іншых узгадваюцца артыкул 292 (масавыя беспарадкі) і артыкул 342 (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, груба парушаючых грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх).

Неабходна адзначыць, што на пасяджэнні Бялыніцкай раённай выбарчай камісіі па выбарах дэпутатаў Бялыніцкага райсавета 20 лютага не быў зарэгістраваны ні адзін з трох дэмакратычных прэтэндэнтаў у кандыдаты. Падставай для адмовы ў рэгістрацыі паслужылі нібыта маючыя месцы недакладнасці ў падпісных лістах за вылучэнне патэнцыйных кандыдатаў.

Таксама акруговыя камісіі Бялыніцкай выбарчай акругі №1 і Круглянскай выбарчай акругі №27 па выбарах дэпутатаў Магілёўскага абласнога Савета ў гэты ж дзень адмовілі ў вылучэнні ў якасці кандыдатаў у дэпутаты двум дэмакратычным актывістам з Бялыніч Пятру Шымбалёву і Алегу Мяцеліцу па аналагічных падставах. Такім чынам, ніякіх дэмакратычных кандыдатаў на выбарах у мясцовыя Саветы ў Бялыніцкім раёне не засталося.

Сітуацыю каментуе незалежны журналіст з Бялыніцкага раёна Барыс Вырвіч:

"Шчыра кажучы, у мяне з'явіліся сумневы, ці ўсё добра са станам здароўя ў Юрыя Пятровіча Сіманава і ў начальніка ідэалагічнага аддзела Бялыніцкага райвыканкама і па сумяшчальніцтву старшыні Бялыніцкай раённай камісіі па выбарах дэпутатаў райсавета, Ірыны Уладзіміраўны Фурсавай пасля таго, як я прачытаў вывешаны на райвыканкамаўскім сайце дакумент, — кажа Барыс Вырвіч. — У Бялынічах што — нехта збіраецца ісці штурмаваць мясцовы райвыканкам і абвяшчаць "Рудабельскую рэспубліку", каб яго вывешваць, як папярэджанне? Усе дэмакратычныя прэтэндэны ў кандыдаты незарэгістраваныя, засталіся толькі лаяльныя, дык чаго мясцовым уладам хвалявацца? Абсалютна неадэкватныя дзеянні, на маю думку. Складваецца ўражанне, што "народная ўлада" вельмі баіцца гэты самы народ".

***"Праваабаронцы за свабодныя выбары"***



# МАРШРУТЫ ОТМЕНЯЮТ, ПРОЕЗД ДОРОЖАЕТ, А УБЫТКИ ВСЁ РАВНО РАСТУТ

Александр ВЛАД

***Автобусные маршруты отменяются, проезд дорожает, автопарки с трудом связывают концы с концами. Нередко в качестве причины называют следующее объяснение. Дескать, экономический кризис отрицательно сказывается на работе общественного транспорта и его окупаемости. А это, в свою очередь, ведёт к сокращению пассажирских перевозок и транспортных услуг населению. Таким образом, причина названа, но объясняет ли она сложившееся положение?***

На кризис и его негативные последствия у нас принято списывать многое. Не забывая при этом добавлять, что этот кризис мировой. Получается, все проблемы оттуда, где стихия рынка обрушила мировые экономики, а в результате страдаем мы. Но не будем спешить соглашаться и обратимся к интересным цифрам. Вот данные за далёкий уже 2008 год. Согласно этим сведениям у государственных транспортных предприятий рентабельность основной деятельности (перевозка пассажиров в регулярном сообщении) составила минус 8%, а убытки — около 42 миллиардов рублей. В следующем 2009 году ситуация не улучшилась, поскольку убытки составили более 60 миллиардов руб. Очевидно, что мировой экономический кризис здесь и рядом не лежал. Общественный транспорт республики уже в те более-менее благополучные годы находился в самом настоящем критическом состоянии.

В качестве дополнительного штриха приведём цитату из интервью Виктора Судиловского, директора Климовичского «Автопарка №9». В октябре 2008 года он рассказал в местной районке, что «дотации, получаемые из районного бюджета, не покрывают материально-технические затраты, которые несёт автопарк». Что же тогда говорить про настоящее время, можно уверенно предположить, что сегодня климовичские транспортники с трудом находят ресурсы для покрытия многочисленных расходов.

Практически же это означает сокращение автобусных маршрутов. В частности в Могилёвской области за последние пару лет отмена и сокращение рейсов произошла во многих районах. Независимые СМИ передавали, что в Могилёвском и Круглянском районах были отменены автобусные рейсы в отдалённые посёлки. Белыничский автопарк также отменил 7 пригородных рейсов.

Ситуация особенно показательна, когда сравниваешь былые времена с нынешними. Например, сейчас сельчанам в лучшем случае гарантируется два дня в неделю, когда они могут съездить и вернуться в город. А некогда автобусы ездили в климовичские деревни по несколько раз в сутки. Например, в Звенчатку было 4 ежедневных рейса, в Соболевку — 5, Ходунь — 4, Милославичи — 4.

Можно продолжать сравнивать, но суть, в общем-то, не в этом. Общественный транспорт, действительно, находится в глубоком кризисе, но начался он не из-за мировых экономических катаклизмов. Причины кроются в неэффективной административно-хозяйственной системе белорусского государства, которая порождает и усугубляет кризисные явления в экономике. Поэтому ни повышение цен на транспортные услуги, ни сокращение маршрутов, ни иные аналогичные меры не могут принести ожидаемого эффекта.

# ЛЕЧИТЬ НЕ ПЕРЕЛЕЧИТЬ?

Данила МЕСТИЧ

**** март 2011 года —***

### «СИФИЛИС НЫНЧЕ НЕ В МОДЕ» (газета «Вестник Могилёва»).

В сравнении с прошлым годом по республике снизилась заболеваемость сифилисом — на 33%. Однако в районах Могилёвской области (Бобруйский, Быховский, Белыничский, Дрибинский, Климовичский, Костюковичский, Краснопольский, Славгородский, Хотимский) уровень заболеваемости сифилисом превышает среднеобластной показатель в два-три раза.

**** февраль 2014 года —***

Валентина СОКОЛОВСКАЯ, mogilevnews.by

### В РЕГИОНАХ МОГИЛЁВСКОЙ ОБЛАСТИ РАСТЁТ КОЛИЧЕСТВО ПОРАЖЁННЫХ ВЕНЕРИЧЕСКИМИ ЗАБОЛЕВАНИЯМИ

В 2013 году в области было зарегистрировано на 55 поражённых сифилисом больше, чем в году предыдущем. И если в Могилёве заболеваемость этим опасным недугом снизилась на 10 %, то в Бобруйске на 60 % возросла, а в районах области она в общей сложности увеличилась почти вдвое.

Наибольшая заболеваемость сифилисом в Климовичском, Кричевском, Краснопольском, Дрибинском и Мстиславском районах. Заражаются чаще молодые люди в возрасте 18-39 лет, нередко — во время поездок на работу в ближнее зарубежье. Более чем в половине случаев заражение происходит в состоянии алкогольного опьянения.

Заболеваемость гонореей в 2013 году также выросла на 22 % по сравнению с 2012 годом, особенно в Чаусском, Белыничском, Могилевском, Славгородском районах и Могилёве.





# «ЭТО ВРЕМЯ ВЫКОРЧЕВАЛО С КОРНЕМ ВЕСЬ НАШ РОД...»

**Михаил ПЕТРОВ**

***Евдокия Емельяновна Пурина родилась в простой крестьянской семье, жившей на Могилёвщине в Климовичском уезде. Как и миллионы её соотечественников испытала многие и многие трудности. Братоубийственная гражданская война, голод и тяготы коллективизации, репрессии коммунистического режима, военное лихолетье и немецкая оккупация. Это была самая обычная жизнь — и именно в этом трагизм судьбы нескольких поколений советских людей. Страх, боль и смерть были для них обычной жизнью.***

***У самой Евдокии Пуриной репрессировали брата, а её за связь с врагом народа исключили из комсомола и беременную выгнали с работы. Уехала в Россию, во время войны находилась с детьми на оккупированной территории. В послевоенный период работала учителем.***

***Воспоминания Е.Е. Пуриной, опубликованные в интернете (purina.newmail.ru), отличаются образностью деталей и наполнены переживаниями за всё прожитое и пережитое. Думается, что отрывки из них с интересом прочитают читатели “Клімавіцкай Інфа-Панарамы”.***




«Мои родители Осипенко Емельян Антонович и Осипенко Прасковья Максимовна белорусы, проживали в Могилёвской губернии Климовичского уезда, Роднянской волости, деревне Халдеевке. В 1915 г. отца призвали в царскую армию и отправили на фронт в действующую армию. Он участвовал в сражениях, но остался жив. По состоянию здоровья и как многодетного хлебопашца отца демобилизовали, и летом 1915 года он вернулся домой. 14 марта 1916 г. родилась я, пятый ребёнок в семье.

В 20-е годы жизнь в стране стала понемногу налаживаться. Крестьяне закончили полевые работы, заполнили закрома зерном, сараи — кормом для скота, и только бы отдохнуть, но в деревню зачастили уполномоченные — у порога встал колхоз. Это ужасное слово я впервые услышала, когда мне шёл двенадцатый год. По дворам ходил глашатай и звал крестьян на сходку. Крестьяне бросали плетение лаптей, их жёны, охая, оставляли свои прялки, и все шли в самую большую хату слушать оратора. Те в своих речах обещали всем сладкую жизнь. Беднота радовалась, у них ни кола, ни двора, и терять нечего, а те, у кого были лошади и коровы, почёсывая затылки, задумывались.

Первыми агитаторами были наши селяне. В деревне их длительное время не было, некоторые из них прибыли в красных штанах (галифе). Их давали в награду за какие-то громкие дела. На первых сходках колхоз не получился, тогда наехали незнакомые селянам люди. Особенно среди них выделялся Хананай-красные штаны. Фамилия ли это его или прозвище, не знаю, но глашатай объявлял: «Сам Хананай-красные штаны молвить будет». Его я видела воочию. Кожаная куртка, обтянутая несколько раз ремнями, красные штаны галифе, хромовые сапоги и обязательно в руке нагайка, которой он постоянно размахивал. Он говорил: «Вам не надо будет работать, за вас всё будут делать машины, будут кормить, одевать, обувать, да не в лапти, а в добротные сапоги» — и в этот момент он поднимал ногу и продолжал: «Вот такие, как на мне». Бедняки радовались, иные хмурились и с укоризной качали головами.

За месяц агитации в колхоз вступили только бедняки. У них был только мелкий скот, лошадей и коров не было. Для того чтобы доложить высшему начальству о создании в деревне Халдеевке колхоза, надо было обогулить (согнать вместе) весь крестьянский крупнорогатый скот. И тут к нашим местным агитаторам в деревню приехало подкрепление. Они разделили все крестьянские дворы на разные категории: бедняк, середняк, кулак и подкулачник, но последний появился позже и состоял из тех, кто и под угрозами не шёл в колхоз. В нашей деревне выделили одного кулака Тараса, у него было четыре надела земли и дом пятистенка, покрытый соломой. Семья была большая, трудолюбивая. У Тараса отобрали сарай вместе с заготовленными кормами и согнали к нему лошадей. Для коров нашли сарай на краю деревни. Пока обогулили только тех коров, которые давали молоко. Сено, заготовленное хозяином, беспрепятственно растащили. Кормить объединённое стадо нечем, и с зари до поздней ночи по округе разносился рёв голодного скота.

Большие изменения произошли среди крестьян. Раньше вставали до восхода солнца, теперь полюбили валяться в постели, и в памяти возникали слова Хананая-красные штаны: «Вам не надо будет рано вставать, всё за вас сделают машины, только рот шире раскрывайте». Так почему же мои земляки такие хмурые, печальные? Для того чтобы понять ответ, я была ещё слишком молода. В те времена часто можно было услышать частушки-прибаутки:

А в колгасе добре жить, один робить, семь лежить,

А як солнце припече — и последний утече!

Это время выкорчевало с корнем весь наш род. В Белоруссии у меня не осталось никого, ни двоюродных, ни троюродных. Все они были раскулачены, высланы, часть из них погибла на каком-то озере. Их везли на барже, а та перевернулась (или ей кто-то помог перевернуться), и все люди утонули, в том числе и мои родичи. Другие погибли на Колыме в лагерях. Мой дорогой дядя Семён, который после смерти отца помогал матери нас растить, умер медленной голодной смертью только за то, что имел золотые руки. Он посадил сад (5 яблонь), в нашей деревне это было редкостью. Выдолбил деревянные улья (дуплянки), развёл пчёл. Дуплянки развесил по деревьям, этим и жил. Земли у него было мало. Его твёрдо обложили, всё забрали, растащили, и его корень засох. Три моих тёти жили на хуторах. Батраков не имели, все работы выполняли своими руками, погибли за то, что слишком много трудились и имели хаты с железными крышами.

Ныне живущему поколению трудно понять всю глубину бед того времени. Для осознания всего содеянного надо было судьбе провести по всем кругам ада и просить Господа Бога, чтобы никогда не было повторения».



# МАГІЛЁЎСКІ УНІВЕРСІТЭТ АКУПЛЯЕЦЦА НАПАЛОВУ, У БДУ — НЕ СТАЕ РЭНТАБЕЛЬНАСЦІ

**Арцём МАРТЫНОВІЧ, Еўрарадыё**

***Віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік абяцае ўніверсітэтам права выстаўляць кошты на вучобу. "Вучоба дакладна не патаннее", — адказваюць на гэта ў ВНУ.***

"Мы плануем, ва ўсялякім разе з новага навучальнага года, адмовіцца ад рэгулявання коштаў навучання. Вырашайце самі: усё мусіць каштаваць столькі, колькі каштуе", — цытуе БелТа выказванні намесніка прэм'ера з калегії ў Мінадукацыі.

У БДУ не супраць "адпускаць кошты", але пакуль не могуць.

"Міністр таксама даўно гаварыў, што трэба адпусціць кошты на вучобу. Але пакуль мы узгадняем кошты ў Мінадукацыі. Кошты не зменшацца, бо ўсё ж даражэе, нам жа і заробкі трэба плаціць выкладчыкам. У нас на некаторых спецыяльнасцях мінусавая рэнтабельнасць", — заўважаюць у галоўнай ВНУ краіны. Адвучыцца на першым курсе на "міжнароднае права" цяпер каштуе 18 мільёнаў!

Адзін з самых танных універсітэтаў — альма-матар кіраўніка краіны — Магілёўскі ўніверсітэт імя Куляшова. Навучанне акупляецца толькі на палову.

"Сёння ўніверсітэт самы танны! Калі на бюджэтніка траціцца сума парадку 100 мільёнаў. А мы з нашых платнікаў збіраем палову гэтай сумы. Таму, мы б паднялі кошт, у разумных межах", — разважаюць у адміністрацыі гэтай ВНУ.

Беларускі тэхналагічны ўніверсітэт пра кошты пакуль не гаворыць. Перастрахоўваюцца і каротка адзначаюць: "Да нас з Мінадукацыі пакуль ніякіх распараджэнняў не паступала". Не бяруцца пакуль называць новыя кошты і ў Эканамічным універсітэце.

Права навучальных установаў самім называць кошты на веды — гэта крок да развіцця, мяркуе ўдзельнік Грамадскага Балонскага камітэту Уладзімір Дунаеў.

"Гэта пашырэнне аўтаноміі для універсітэтаў. Але калі гавораць аб пашырэнні фінансавай ці кадравай аўтаноміі, гэта невялікія крокі без рэальнага пашырэння аўтаноміі: пакуль рэктары не прадстаўнікі акадэмічнай супольнасці", — даводзіць Уладзімір Дунаеў.

І не хвалюецца, што кошты моцна задзяруць: перашкодзяць канкурэнты з Расіі ды Чэхіі.

"Толькі адчайныя рэктары на гэта пойдуць. Сёння ўжо не ўсе гатовыя плаціць такія кошты. Ёсць Расія, куды едзе шмат абітурыентаў, ёсць і польскія, і чэшскія ВНУ. Бо ёсць дэфіцыт студэнтаў", — выказваецца Уладзімір Дунаеў.



Пакуль самым дарагім застаецца стаматалагічны факультэт Медыцынскага універсітэта ў Мінску. За год вучобы трэба аддаць 19 мільёнаў рублёў.

## ФАКТ У ТЭМУ ад "Клімавіцкай Інфа-Панарамы":

Вялікай праблемай нашай адукацыі таксама з'яўляецца тое, што яна паступова губляе нацыянальнае аблічча. За гады кіравання Лукашэнкі працэсы русіфікацыі беларускай адукацыйнай сістэмы набылі ўстойлівы характар.

Як паведамляе газета «Наша Ніва», у гэтым навучальным годзе колькасць вучняў беларускамоўных школ скарацілася ў чарговы раз. Школьнікаў, якія навучаюцца па-беларуску, засталося толькі 15% (142 тысячы дзяцей, гэта кожны сёмы вучань). Дзесяць гадоў таму іх было — 24,8%.

Яшчэ больш крытычная сітуацыя ў ВНУ. Па-беларуску вышэйшую адукацыю атрымліваюць усяго 1 з 670 студэнтаў.

# ТОВАРООБОРОТ БЕЛАРУСИ И ВЕНЕСУЭЛЫ СНИЗИЛСЯ В СЕМЬ РАЗ

***Согласно предварительным данным Белстата, сообщает TUT.BY, товарооборот Беларуси и Венесуэлы в 2013 году снизился в 7 раз по сравнению с 2012 годом. Основная причина — смена правительства в этой латиноамериканской стране. Об этом заявил 24 февраля в Минске посол Венесуэлы в Беларуси Америко Диас Нуньес.***

***Согласно предварительным данным Белстата, сообщает TUT.BY, товарооборот Беларуси и Венесуэлы в 2013 году снизился в 7 раз по сравнению с 2012 годом. Основная причина — смена правительства в этой латиноамериканской стране. Об этом заявил 24 февраля в Минске посол Венесуэлы в Беларуси Америко Диас Нуньес.***




В 2013 году товарооборот Беларуси и Венесуэлы серьёзно сократился. Что касается нашей страны, то в прошлом году Беларусь экспортировала в Венесуэлу продукции в три раза меньше по сравнению с 2012 годом.

«Смена правительства Венесуэлы повлияла на снижение товарооборота», — заявил Америко Диас Нуньес. При этом он отметил, что «все подписанные контракты и соглашения между Беларусью и Венесуэлой выполняются». Также он сказал, что в настоящее время не рассматривается возможность поставок венесуэльской нефти в Беларусь.





# ЧАРГОВАЯ ПАЦЁМКІНСКАЯ ВЁСКА

**Валер КАРБАЛЕВІЧ, Радыё Свабода**

***Новая нарада ў Лукашэнкі прайшла паводле традыцыйнага для апошняга часу сцэнару. Як звычайна, яна была прысвечаная чарговаму эканамічнаму правалу. Гэтым разам — з Кітайска-беларускім індустрыяльным паркам (КБІП).***

З выступу на нарадзе Аляксандра Лукашэнкі вынікае, што «працэс яго стварэння... не ідзе ніяк». Мала таго, што «на распрацоўку і ўзгадненне генеральнага плану парку пайшло восем месяцаў», дык яшчэ адказныя чыноўнікі «потым апамяталіся і заяўляюць, што не тое начарцілі... Мы ж валтузімся з боку ў бок, і ўсё тоне ў лавіне бюракратызму», — сказаў кіраўнік дзяржавы. Ягоныя пытанні сведчаць, што нейкіх сур'ёзных рэзідэнтаў у КБІП пакуль няма і асаблівых намаганняў для іх прыцягнення чыноўнікі не прыкладаюць.

З гэтых заяваў Лукашэнкі можна зрабіць шэраг высноваў. Па-першае, сёння ў Беларусі не засталося сфераў, у якіх справа ішла б нават не паспяхова, а проста на нейкім нармальным, прымальным узроўні. Што ў будаўніцтве, што ў прамысловасці, што ў Белкаапсаюзе — паўсюль правал. Прычым, што асабліва важна падкрэсліць, гэта прызнае сам Лукашэнка. Вельмі паказальны вынік у год 20-годдзя ягонага праўлення.

Па-другое, загады Лукашэнкі перастаюць выконвацца. Ён выдае ўказы і дэкрэты, раздае даручэнні, і ўсё гэта «тоне ў лавіне бюракратызму». Не дапамагаюць крымінальныя справы, гучныя адстаўкі і пагрозы ўсіх перасадзіць у турму. Гэта прызнае і сам кіраўнік Беларусі. Вось ён кажа, што яму прадставілі праект новага ўказу па парку. «Я не супраць абмеркаваць гэты ўказ. Але баюся, што яго можа спасцігнуць лёс папярэдняга, падпісанага ўказу», — адзначыў ён.

Па-трэцяе, у беларускіх умовах планы ўладаў і рэальнасць — гэта зусім розныя рэчы. Што было зразумела і раней, але цяпер стала абсалютна відавочным. Лукашэнка падпісаў указ аб стварэнні Кітайска-беларускага індустрыяльнага парку ў Смалявіцкім раёне 5 чэрвеня 2012 году. Летам мінулага году, напярэдадні візіту ў Кітай, Лукашэнка ў інтэрв'ю агенцтву «Сіньхуа», распавядаючы кітайскай аўдыторыі пра КБІП, заявіў: «З моманту рэалізацыі гэтага праекту ў поўным аб'ёме краіна ў год будзе атрымліваць дадаткова да 50 млрд. долараў экспарту. Гэта павялічыць нашу фінансавую стабільнасць. Гэта самае хворае пытанне на сённяшні дзень для нашай краіны. Гэты праект здымае гэтую праблему». І вось цяпер высвятляецца, што маем справу з чарговай манілаўшчынай, што «працэс яго стварэння... не ідзе ніяк».

Па-чацвёртае, з выступу Лукашэнкі вынікае, што пры распрацоўцы праекту КБІП, як і ўсіх іншых праектаў, не рабілася сур'ёзнага аналізу эфектыўнасці. Высветлілася, што праектанты «не тое начарцілі». А вось яшчэ паказальная заява кіраўніка дзяржавы: «Калі гарачыя галовы, якія прапаноўвалі стварэнне парку, сёння астылі і цяпер лічаць, што ён не патрэбен краіне, — набярыцеся мужнасці, скажыце пра гэта». Вось, аказваецца, нават так прымаюцца ў Беларусі важныя рашэнні.

Хачу нагадаць, што паводле ўказу Лукашэнкі аб стварэнні КБІП ягоныя рэзідэнты атрымалі вялізарныя льготы. Яны да 2032 году вызваленыя ад падаткаў на прыбытак, на нерухомасць, на зямлю. За імпартныя тавары, якія выкарыстоўваюцца на тэрыторыі парку, не трэба выплачваць мыта і падатак на дададзеную вартасць. Нават падаходныя падаткі супрацоўнікі парку будуць плаціць у памеры 9%, а не 12%, як па ўсёй краіне. Іншаземцы могуць набываць тут зямлю ў прыватную ўласнасць, хоць для беларусаў прыватная ўласнасць на зямлю ў краіне забаронена. Такім чынам, запланавана ў цэнтры Беларусі стварыць вялікі афшор. Калі б беларускі бізнэс атрымаў такія беспрэцэдэнтныя льготы, то, магчыма, увогуле б не было патрэбы ў замежных інвестыцыях.



Тым не менш замежны капітал у гэты беларускі афшор ісці не спяшаецца. І кітайцы вядуць сябе стрымана. Падчас візіту прэм'ер-міністра Мясніковіча ў Кітай у студзені гэтага году ён нават папракнуў кітайцаў, што тыя даюць толькі звязаныя крэдыты, а свае грошы ўкладаць у эканоміку Беларусі не хочуць. «За апошнія гады ў Беларусь паступіла каля 50 млрд. долараў прамых замежных інвестыцыяў. Пры гэтым з Кітая — усяго 195 млн. долараў», — заўважыў М. Мясніковіч у інтэрв'ю кітайскай газеце China Daily ў Пекіне. І прапанаваў перайсці ад гандлёвага і крэдытнага супрацоўніцтва да інвестыцыйнага.

Але кітайцы не надта спяшаюцца. І нават не спакушаюцца на беспрэцэдэнтныя ільготы. Бо ведаюць пра адну акалічнасць, пра якую беларускія ўлады імкнуцца не ўзгадваць.

Справа ў тым, што паводле дамовы аб стварэнні Адзінай эканамічнай прасторы паміж Беларуссю, Расіяй і Казахстанам з 2017 году на тэрыторыі краін-удзельніц павінны быць ліквідаваныя ўсе афшорныя зоны або раёны з эксклюзіўным ільготным рэжымам. І з гэтага гледзішча падвісае статус і свабодных эканамічных зон, якія існуюць у Беларусі ў кожнай вобласці, і Парку высокіх тэхналогій імя Валерыя Цапкалы, і КБІП. Акрамя таго, існаванне афшорных зон супярэчыць правілам Усясветнай гандлёвай арганізацыі, перамовы аб уступленні ў якую цяпер інтэнсіўна вядзе афіцыйны Мінск.

Так што, гледзячы па ўсім, на сённяшні дзень гэты злашчасны парк пад Смалявічамі — вялікая хімера, адна з пацёмкінскіх вёсак, якія так любяць будаваць беларускія ўлады.

Інфармацыя да роздуму. Незадоўга да паездкі Лукашэнкі на адкрыццё Алімпійскіх гульняў у Сочы паведамлялася, што там, на Алімпіядзе, Лукашэнка правядзе перамовы з кіраўніком Кітая Сі Цзіньпінам. Аднак сустрэча не адбылася. «Стратэгічнаму партнёру», мусіць, гэта не цікава.





# ЦИТАТЫ О ЖЕНЩИНАХ

— Не знаю, почему женщины требуют всего того, что есть у мужчин. Ведь у женщин, среди прочего, есть мужчины. * Коко Шанель

— Женская догадка обладает большей точностью, чем мужская уверенность. * Редьярд Киплинг

— Красивые девушки и женщины редко бывают одни, зато часто они бывают одинокими.
* Хенрик Ягодзиньський

— Если вы хотите узнать, что на самом деле думает женщина, смотрите на неё, но не слушайте. * Оскар Уайльд

— Если женщина тебя любит, то, в сущности, тот, кого она любит — не ты. Но тот, кого она больше не любит, — именно ты! * Поль Жеральди

— Есть мужчины, красноречием превосходящие женщин, но ни один мужчина не обладает красноречием женских глаз. * М. Вебер

— Большая часть мужчин требует от своих жён достоинств, которых сами они не стоят.
* Лев Толстой

— Женщин надо принимать со всеми нашими недостатками. * Аркадий Давидович

**МИНУТКА ЮМОРА**

Муж и жена играют в гольф. Кругом роскошные виллы. Жена просит у мужа разрешения стукнуть по мячу. Тот не разрешает, мол, ты опять попадёшь кому-нибудь в окно. Она его очень сильно упрашивает и он соглашается. Жена размахивается, ударяет по мячу, и мяч летит через забор соседней виллы. Раздаётся звук разбитого стекла. Они отправляются к хозяину виллы просить прощения. Входят во двор и видят загорелого бородатого мужчину, а рядом разбитый кувшин. Жена умоляет простить их, а муж предлагает заплатить за разбитое имущество. Незнакомец успокаивает супругов и говорит: «Признаться, я сам вам очень благодарен за случившееся, ведь я — джин, который много лет просидел в этом проклятом кувшине. За то, что вы меня освободили, я готов исполнить три желания. Только по магическим правилам одно желание будет мужа, одно — жены, одно — моё». Они соглашаются. Муж просит миллион долларов, жена — неувядающую молодость. На что их новый знакомый отвечает: «Без проблем, я исполню ваши желания, а моё желание такое. Я долгое время не видел женщин, а ваша жена мне очень понравилась и я хочу её. Таково моё желание, я хочу исполнить его немедленно». После некоторых колебаний муж соглашается. В спальне жена слышит вопрос — «А какой возраст у твоего мужа?» — «Ему 44 года.» — «44 года, а всё ещё верит в джинов?!»

**ФРАЗОЧКИ**

* Красивая женщина радует мужской глаз. Некрасивая — женский.

* О вкусах женщины не спорят — их оплачивают!

* Это правда, что женщины живут дольше мужчин? — Не все. Только вдовы.

* Деньги не портят мужчин до тех пор, пока есть женщины, снимающие эту порчу.

* Бог создал женщину позднее потому, что не захотел слушать советов при создании мужчины.

* Драма женщин: не успеешь оглянуться, как на тебя перестают оглядываться.

* Женщину легче раздеть против её воли, чем одеть по её желанию.

***Что Женщине нужно на самом-то деле,***
***Мы более-менее, вроде бы, знаем!***
***И всё, что себе пожелать вы хотели б —***
***Мы именно этого вам и желаем!***

Успехов — в работе! Погоды — приятной!
Чтобы были вы «ягодкой» неоднократной!
Детей — разнополых! Пальто — по фигуре!
Соседей в купе — что не пьют и не курят!
Волос — шелковистых! Зубов — белоснежных!
Мужей — состоятельных! Спонсоров — нежных!
Любовников — умных! Супругов — в законе!
Свекровей — живущих в другом регионе!
Невесток — покорных! Тарелок — помытых!
Мужей — не храпящих и на ночь побритых!
Коллег — не зацикленных только на бабах!
Врагов — чтоб без силы! Друзей же — не слабых!
Чулок — без затяжек! Ни дня — без обновки!
Начальников в длительной командировке!
Страстей — обжигающих, как в сериале!
По пять сериалов — на каждом канале!
Романов — курортных! Порывов — безумных!
Соседей и снизу и сверху — бесшумных!
Поездок — не на огород, а на море!
Пироженок — вкусных, но чтоб без калорий!
Машин — иностранных, но руль чтобы слева!
И пусть вам гаишник кричит: «Королева!».
Намерений — разных, но лучше серьёзных!
Жилищ — пятикомнатных и пятизвёздных!
Стиральных машин, пылесосов, комбайнов —
И функциональных, и стильных дизайнов.
Проблем — разрешимых, а трудностей — кратких!
Брильянтов — не меньше, чем 40 каратов!
И, кажется, что-то ещё мы забыли...
А-а-а, ясно!
Любви!!!
И сервантов — без пыли!!!
И сбыться мечте — стать великой артисткой!!!
И Женского Дня — в год хотя бы раз 300!!!

Ну, вот и поздравили мы, как могли
Красивых и милых — всех женщин Земли!

## ЦИТАТЫ ИЗ ЖАЛОБ И ЗАЯВЛЕНИЙ НА СЕКСУАЛЬНЫЕ ДОМОГАТЕЛЬСТВА

* Стоявший за мной в очереди мужчина вдруг дёрнул меня за такое место, что стыдно сказать, там не каждый муж позволяет себе распускать руки.

* Платье с глубоким вырезом на груди я одела в результате жаркой погоды, а не ради лапания меня мужским населением конструкторского бюро.

* Сотрудники милиции предложили мне выйти замуж, и это меня оскорбило, так как я была в трезвом виде.

* Лаборантка занимается в рабочее время любовными шашнями практически со всеми мужчинами отдела, что негативно сказывается на моём психологическом состоянии, всё-таки обидно быть обделенным.

* И вот тогда-то он бросился на меня, словно был не старший прораб, а настоящий Клеопатр.

* На технолога у меня имеются две жалобы. Во-первых, когда он с похмелья, то не упускает возможности облапить меня. Во-вторых, лапанием он увлекается ежедневно, так как похмелье является привычным состоянием его души.

* Нет, нет и ещё раз нет, Таков был мой окончательный ответ на предложение Виктора о сотрудничестве наших тел.



КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр'евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*